Каханоўскі, А.Г.Шляхі сацыяльнай мабільнасці насельніцтва Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. / А.Г. Каханоўскі // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БДУ, 2010. — С. 48-56.

**А.Г. Каханоўскі**

# ШЛЯХІ САЦЫЯЛЬНАЙ МАБІЛЬНАСЦІ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

Грамадства з'яўляецца сацыяльнай сістэмай, якая самарэгулюецца і адаптуецца да змен і складанасцей, мае тэндэнцыю «...узаемадзеяння да самазахавання...», што «...ёсць першы закон сацыяльных працэсаў» [10; с. 307]. Сапраўднай раўнавагі ў сацыяльнай сістэме не бывае. У грамадстве пастаянна прысутнічае магчымасць сацыяльных змен. Яно зна ходзіцца ў працэсе развіцця, у руху паміж станамі ўмацавання і разбу рэння. У гэтым імкненні грамадства да дынамічнай раўнавагі і самаза хавання вялікая роля належыць працэсам сацыяльнай мабільнасці, якая ўспрымаецца як сукупнасць сацыяльных перамяшчэнняў людзей у гра мадстве, звязаных са змяненнем статуса. Сацыяльная мабільнасць, вы вучэнне якой з'яўляецца адной з цэнтральных тэм сацыяльнай гісто рыі, разглядаецца як важнейшы фактар для вызначэння сацыяльных межаў унутры грамадства.

Навуковая актуальнасць вывучэння эвалюцыі сацыяльнай мабіль насці насельніцтва для аналізу працэсаў сацыяльнай трансфармацыі беларускага грамадства ў другой палове XIX — пачатку XX ст. падмацоўваецца нераспрацаванасцю праблемы ў айчыннай гістарыяг рафіі. У якасці самастойнага прадмета вывучэння яна фактычна не ста вілася беларускімі гісторыкамі. Асобныя заўвагі і лічбы аб сацыяльных перамяшчэннях гарадскіх жыхароў дадзены ў даследаванні З. В. Шыбекі [14], сялянства — у працах М. М. Улашчыка [13], В. П. Панюціча [9], С. М. Токця [12] і інш. У гэтым артыкуле пастаўлена задача харак тарыстыкі асноўных накірункаў сацыяльнай мабільнасці насельніцтва Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст., на этапе станаўлення буржуазнага грамадства. Гэта перспектыўны накірунак даследаванняў, дэталёвая распрацоўка якога запатрабуе падрыхтоўкі шэрагу манаграфічных работ. Задача ўскладняецца тым, што агульную карціну росту сацыяльнай мабільнасці розных груп насельніцтва Беларусі толькі ў пэўнай меры дазваляе ўзнавіць інфармацыя крыніц. Гэта — разрозне ныя апісанні этнографаў, статыстыкаў, мемуарыстыка, матэрыялы справаводства і інш. Адсутнічаюць сістэматызаваныя статыстычныя звесткі аб асобных групах насельніцтва і супаставімых храналагічных зрэзах.



Класы буржуазнага грамадства ў Беларусі не маглі скласціся, пакуль не было адменена прыгоннае права, не адбылася дэфеадалізацыя працы, найперш сялянства, пакуль не сфарміраваліся перадумовы пера ходу да індустрыяльнай працы. Адным з вынікаў гэтага працэсу стала пралетарызацыя значных слаёў насельніцтва, чый сацыяльны статус на працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў часта быў вышэй, чым гарадскіх па дзёншчыкаў, рабочых і ўсіх тых, хто цалкам залежаў ад заработнай платы. Былыя рамеснікі ўспрымалі сваю пралетарызацыю як сацыяльнае падзенне, а сельскія жыхары, трапляючы на гарадскія прадпрыемствы, нярэдка бачылі сваю жыццёвую перспектыву больш станоўча.

Сацыяльны напрамак мадэрнізацыйных працэсаў у другой палове XIX — пачатку XX ст. быў звязаны з сацыяльнай мабілізацыяй грамад ства, калі сацыяльны статус і роля асобы вызначаліся не праз прыпіс ванне, прымацаванне да пэўнай саслоўнай, статуснай групы, але праз механізмы дасягнення. Для саслоўнай арганізацыі традыцыйна харак тэрны невысокія тэмпы сацыяльнай мабільнасці. Саслоўная прыналежнасць у Расійскай

імперыі доўгі час вызначала грамадскае становішча, магчымыя варыянты індывідуальнага лёсу кожнага чалавека. Магчы масці павышэння сацыяльнага статуса былі звязаны ў першую чаргу з атрыманнем адукацыі і поспехамі на дзяржаўнай службе. У паслярэ форменны перыяд значэнне дадзенай тэндэнцыі зніжалася. Паступова менш выразнай становіцца залежнасць тыповага жыццёвага сцэнарыя кожнага з грамадзян ад саслоўнага паходжання і адносін да дзяржаўнай службы. Гэта ў найбольшай ступені датычыцца адукаванай і эканамічна актыўнай часткі грамадства. Ніверліроўка саслоўных абмежаванняў ад бывалася перш за ўсё праз гандлёвапрамысловае расійскае заканадаў ства, якое ў другой палове XIX — пачатку XX ст. насіла шмат у чым усе саслоўны характар [2; с. 26].

Пашырэнне ў другой палове XIX — пачатку XX ст. магчымасцей са цыяльнай мабільнасці стала адной з цэнтральных ліній развіцця сас лоўных інстытутаў. Аднак, нягледзячы на паскарэнне гэтага працэсу, за хоўвалася амаль нязменная бюракратычная сістэма зацвярджэння пе раходу з аднаго стану ў другі. Акрамя таго, сямейныя традыцыі і нормы паранейшаму адыгрывалі значную ролю ў арганізацыі грамадскага жыцця многіх сацыяльных груп насельніцтва. Расійскае заканадаўства ў другой палове XIX — пачатку XX ст., з аднаго боку, зрабіла больш да ступнымі саслоўныя межы мяшчанства, сялянства, фармалізавала пры належнасць да купецтва, праз царкоўныя рэформы адмяніла замкнё насць саслоўя хрысціянскага духавенства і ў той жа час значна павысіла



патрабаванні для атрымання дваранскай годнасці за заслугі на грама дзянскай і вайсковай службах. Асабліва быў ускладнены шлях выслугі спадчыннага дваранства. Эвалюцыя прававога становішча расійскага дваранства адбывалася не праз адмену яго прывілеяў, а ў выніку пашы рэння правоў іншых саслоўяў [2; с. 14]. Разбурэнню ранейшых саслоў ных інстытутаў, пашырэнню ўніфікацыйных працэсаў і ў канечным выніку пераходу да адкрытай грамадскай структуры, якая не стрымлі вала сацыяльную мабільнасць насельніцтва, перашкаджалі створаныя на працягу стагоддзяў традыцыі ў сацыяльнапсіхалагічнай сферы, ма ральныя каштоўнасці.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. у грамадстве Беларусі значна пашырыліся працэсы сацыяльнай мабільнасці. Прадстаўнікі дваранства, мяшчанства, сялянства атрымалі магчымасці змяніць свой саслоўны стан, аднак для прадстаўнікоў розных саслоўяў існавалі неаднолькавыя магчымасці падобных саслоўных пераходаў. Сацыяльная мабільнасць вышэйшага саслоўя Беларусі ў XIX — пачатку XX ст. шмат у чым была абумоўлена ўрадавай палітыкай, звязанай з разборам шляхты ў 1830я і 1860я гг. У выніку значная колькасць шляхты не была зацверджана Герольдыяй у дваранстве і была ўключана ў групы аднадворцаў і грама дзян Заходніх губерняў, якія пасля 1868 г. афіцыйна перасталі існаваць. Былыя аднадворцы і грамадзяне павінны былі прыпісвацца да падатко вых саслоўяў — мяшчан ці сялян. Уладкаванне саслоўных пазіцый дроб най шляхты працягвалася яшчэ доўгі час. Тыя, хто першапачаткова былі запісаны сялянамі, праз некаторы час намагаліся перайсці ў мяшчане. Так, паводле дадзеных Слуцкай мяшчанскай управы за 1885, 1888 і 1891 гг., трэцюю частку ўсіх запісаных за год у мяшчанскае саслоўе скла далі менавіта прадстаўнікі сялянства [5; 6; 7]. Многія з іх паходзілі з былых аднадворцаў. Шляхта на час далучэння беларускіх зямель да Ра сійскай імперыі ўяўляла сабой вельмі стракатую па сваім сацыяльным складзе і шматлікую групу насельніцтва. Але гэта не перашкаджала ёй выяўляць сябе дастаткова кансалідаванай на ўзроўні сацыяльнай псіха логіі і этнапалітычных прыярытэтаў супольнасцю. У выніку далучэння часткі зямель Рэчы Паспалітай колькасць дваранства Расійскай імпе рыі ўзрасла амаль у тры разы, 70 % якога складала шляхта. На мяжы XVIII—XIX ст. каля 90—95 % ад агульнай колькасці шляхты Беларусі складала яе дробная частка [4; с. 315—316]. Яна сама працавала на зямлі, займалася нярэдка промысламі, служыла па найме, у тым

ліку ў якасці падзёншчыкаў. Паступова гэта шляхта страчвала сувязі са сваім асярод кам і традыцыямі, пераходзячы фактычна па сваім сацыяльным стано-



вішчы на ўзровень падатковых саслоўяў. У выніку разбору шляхта пакі дала свой ранейшы стан юрыдычна. Аднак псіхалагічна не магла і не хацела адаптавацца да ўмоў падатковых саслоўяў, склаўшы фактычна значную маргінальную групу, якая адыграла значную ролю ў грамад скапалітычных працэсах на тэрыторыі Беларусі. Дробная шляхта не ад маўляла сістэму норм і каштоўнасцей саслоўнай групы, з якой яна па ходзіла, аднак не прымала звычаі і традыцыі суседняга вясковага на сельніцтва, прадстаўнікоў падатковых саслоўяў.

Міжсаслоўная мабільнасць была адным з найбольш распаўсюджа ных шляхоў вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці. Яна, у сваю чаргу, вельмі часта была звязана з тэрытарыяльнай. Характар гэтай узаемасу вязі быў абумоўлены зменамі ў рыначнай кан'юнктуры, накірункам ур банізацыйных працэсаў. Разнавіднасцю гарызантальнай мабільнасці з'яўляецца геаграфічная мабільнасць. Яна прадугледжвае не змяненне статуса ці групы, а перамяшчэнне асобы з аднаго месца ў другое. Калі да перамены месца дабаўляецца змяненне статуса, то геаграфічная ма більнасць пераўтвараецца ў міграцыю. У Беларусі другой паловы XIX — пачатку XX ст. сезонныя адыходныя промыслы сялян — гэта геаграфіч ная мабільнасць, пераезд на працу ў прамысловыя цэнтры, краіны Еў ропы і Амерыкі, у пошуках зямлі ў Сібір — міграцыя. Геаграфічная ма більнасць і міграцыі складаюць тэрытарыяльную мабільнасць.

Прылічэнне і выхад з мяшчанскай грамады Беларусі звязваліся пера важна з перасяленнямі. У 80я — пачатку 90х гг. XIX ст. колькасць мяш чанхрысціян, якія перапісваліся ці зноў вярталіся ў сялянскае саслоўе, мела тэндэнцыю да росту [14; с. 161]. Яны, як правіла, перасяляліся ў вёску і займаліся земляробствам. Тэрытарыяльная мабільнасць купцоў і мяшчан Беларусі абмяжоўвалася пераважна межамі сваёй губерні, у меншай ступені — іншых беларускіх губерняў. Тыя, хто пакідаў межы рэгіёна, для перасяленняў аддавалі перавагу Украіне, дзе ў гэты час сфар міраваўся адзін з буйнейшых прамысловых раёнаў Расійскай імперыі і адкрыліся шырокія магчымасці для развіцця прадпрымальніцтва. Па водле звестак магілёўскай казённай палаты на 1864 г., мясцовыя купцы і мяшчане перасяляліся пераважна на поўдзень [14, с. 162]. Тут таксама трэба ўлічваць традыцыйныя, наладжаныя сувязі з Украінай, забарону яўрэям пакідаць межы рысы аседласці. У пачатку 1890х гг. мяшчане яўрэі Беларусі сталі выбіраць для перасяленняў найбольш дынамічныя па росце ў гандлёвапрамысловых адносінах гарады і мястэчкі рэгіёна, што было звязана з паляпшэннем эканамічнай кан'юнктуры на мясцо вым рынку і насычэннем людскімі рэсурсамі гарадоў Украіны. Месца



прыпіскі беларускіх сялян да мяшчанскай грамады таксама ў значнай ступені залежала ад рыначнай кан'юнктуры. Напрыклад, у 1882—1883 гг. больш 90 % іх сялілася ў беларускіх гарадах і мястэчках. У 1889—1890 гг. звыш 50 % пераходаў, звязаных з міжсаслоўнай мабільнасцю беларускага сялянства, прыпадала на гарады іншых рэгіёнаў Расійскай імперыі. Менавіта ў гэтыя гады абвастрылася перанаселенасць і беспрацоўе ў гарадах Беларусі. У пачатку 90х гг. ужо больш 80 % беларускіх сялян пры сваёй прыпісцы ў мяшчанскае саслоўе выбірала мясцовыя гарады і мя стэчкі [14; с. 162]. У паведамленні віленскага генералгубернатара міністру ўнутраных спраў ад 17 чэрвеня 1889 г. адзначаліся пераходы ў мяшчан скае саслоўе цэлай сялянскай грамадой, хоць члены яе заставаліся жыць у сельскай мясцовасці і прадаўжалі займацца земляробствам. Сярод тых сялян Мінскай губерні, якія ў 80я — пачатку 90х гг. перайшлі ў мяшчан скае саслоўе, 85,9 %

прыпісаліся да грамад беларускіх губерняў, астатнія 14,1 % — у іншыя рэгіёны Расійскай імперыі [14; с.258].

Паводле дадзеных за 80я — пачатак 90х гг. XIX ст., з 77 мяшчан хрысціян Мінскай губерні, якія перайшлі ў іншыя саслоўі, 12 сталі куп цамі, 65 прыпісаліся да сялянства. У гэтыя ж гады 195 мяшчаніудзеяў Мінскай губерні, якія перайшлі ў іншыя саслоўі, усе выкупілі гільдзей скія пасведчанні і сталі купцамі. З ліку 242 мяшчанхрысціян Мінскай губерні, якія ў 80я — пачатку 90х гг. XIX ст. перайшлі з адной грамады ў другую, 172 — засталіся ў роднай губерні, 21 — прыпісаліся ў іншыя беларускія губерні, 35 — накіраваліся ва Украіну, 14 — у іншыя рэгіёны [14; с. 256]. За гэты ж час з ліку 1670 мяшчаніудзеяў Мінскай губерні, якія пакінулі сваю грамаду, 479 — засталіся ў межах той жа губерні, 314 — перасяліліся ў іншыя беларускія губерні, 780 — накіраваліся на поўдзень, ва Украіну, 45 — у вялікарускія губерні, 16 — у Прыбалтыку, 28 — у пры вісленскія губерні, 8 — на Каўказ. Сярод 403 хрысціян, прылічаных да мяшчанства Мінскай губерні ў 1882—1883 гг., 345 паходзілі з сялянства, 49 — з іншых мяшчанскіх грамад, 9 — з ліку замежных грамадзян. З ліку 347 асоб хрысціянскага веравызнання, прылічаных да мяшчан Мінскай губерні ў 1892—1893 гг., 89 былі выхадцамі з сялянства, 128 — з мяшчан ства, 130 — з ліку незацверджанай шляхты.

Сярод 40 асоб, прылічаных да купцоў Мінскай губерні ў 1882— 1883 гг., 37 паходзілі з ліку мяшчан, 1 — з купцоў, 1 — з яўрэяўземляро баў, 1 — з сялян. У 1892—1893 гг. да купецтва Мінскай губерні было пры лічана 107 чалавек, з іх 102 — выхадцы з мяшчан, 5 — з купцоў. Асноў ная частка прылічаных купцоў былі выхадцы з роднай Мінскай губерні, на другім месцы — значна меншая група выхадцаў з іншых беларускіх



губерняў. З ліку 300 купцоў, пакінуўшых месца прыпіскі ў гарадскіх па селішчах Мінскай губерні за асобныя з 80—90х гг. XIX ст., 182 пры пісаліся да іншых населеных пунктаў роднай губерні, 50 — у іншыя бе ларускія губерні, 44 — ва ўкраінскія губерні, 23 — ва ўнутраныя расійскія губерні, у асноўным — Маскоўскую [14; с. 252, 255].

У апошнія дзесяцігоддзі XIX і асабліва ў пачатку XX ст. працэсы са цыяльнай мабільнасці ахапілі сялянства. Для яго была характэрна перш за ўсё гарызантальная мабільнасць, аднак на мяжы стагоддзяў больш частымі становяцца выпадкі вертыкальнай. Для пачатковага этапу было характэрна імкненне сялянства ўзняць сваё становішча праз пашырэн не ўласнай гаспадаркі, павелічэнне зямельных угоддзяў і адпаведна ма тэрыяльнага дабрабыту. Ва ўмовах існаваўшай аграрнай перанаселенасці гэты шлях быў патэнцыяльна абмежаваны. З рэалізацыяй яго звязана працоўная міграцыя ў краіны Заходняй Еўропы і Амерыкі. З цягам часу сялянства пачало разумець, што праца на зямлі не адзіны занятак, а ёсць магчымасць атрымаць рабочую прафесію ў горадзе і мець значна боль шыя сродкі для жыцця. У пачатку XX ст. выразна акрэслілася ўсвядом ленае імкненне сялян даць сваім дзецям прафесійную адукацыю. У пе раліку найбольш папулярных і перспектыўных спецыяльнасцей для дзя цей сялян вылучаліся вясковы настаўнік і тэлеграфіст [13; с. 29]. Ады ходзіла ў нябыт уяўленне сялян, што «навука» — марная справа, якая адцягвае работніка ад гаспадаркі, прымушае ўкладваць сродкі ў якасці платы за навучанне.

Пісьменны селянін заўсёды карыстаўся павагай сярод аднавяскоў цаў. З сярэдзіны XIX ст. кнігі пачынаюць з’яўляцца ў асобных сялянскіх хатах. У апошнія дзесяцігоддзі XIX і асабліва ў пачатку XX ст. сярод сельскіх жыхароў прыкметна нарастае цікавасць да атрымання адука цыі, перш за ўсё дзецьмі. Значна пашыраецца колькасць навучальных установ, у сценах якіх маглі атрымаць адукацыю сялянскія дзеці. Дына мічна расце лічба школ, адчыненых па ўласнай ініцыятыве вясковых жыхароў. Аднак змяняецца таксама сутнасць паняцця «пісьменны ча лавек», расце ступень адукаванасці сялян. Сярод іх часцей сустракаюц ца людзі, якім удалося атрымаць сярэднюю і часам вышэйшую адука

цыю. Кожная вёска ўжо мела выхадцаў са свайго асяроддзя, якія сталі настаўнікамі ці паступілі на ніжэйшыя ступені дзяржаўнай службы. Але часта асобы, якія атрымалі адукацыю, імкнуліся парваць сувязь са сваім сялянскім асяроддзем, падкрэсліць сацыяльную дыстанцыю з ім. Вы ключэнні са згаданай сітуацыі, як паказваюць пісьмовыя сведчанні су часнікаў, былі больш рэдкімі. Драбленне сялянскіх гаспадарак у выніку



сямейных падзелаў было адным з найбольш пашыраных і ўплывовых фактараў сацыяльнай мабільнасці сельскага насельніцтва. У 1877 г. на сялянскі двор у Мінскай губерні прыпадала ў сярэднім 17,2 дзесяціны зямлі. Для таго каб гаспадар жыў заможна, яму патрэбна было каля 20 дзесяцін. Да 1905 г. сярэдні надзел на сялянскі двор паменшыўся да 9,1 дзесяціны. Адпаведна паменшыўся маёмасны статус тых гаспада роў, якія правялі сямейны падзел без дадатковага набыцця зямельных участкаў. Паводле звычаёвага права ў Беларусі ўсе сыны мелі роўныя правы на бацькоўскую зямлю. Дочкі такіх правоў не мелі, і калі яны выходзілі замуж, то бацька ці браты забяспечвалі яе пасагам.

Сацыяльнамаёмасная іерархія сялянства Беларусі ўяўляе вельмі складаную праблему. Папершае, на ўзроўні вызначэння крытэрыяў ранжыравання, падругое, вылучэння рэпрэзентатыўных крыніц, дак ладней узнікае праблема адсутнасці статыстычных дадзеных, якія даз волілі б разгледзець праблему комплексна і ў дынаміцы. У айчыннай гістарыяграфіі назапашаны значны вопыт ранжыравання сялянства па водле дадзеных наяўнасці ў гаспадарках рабочай жывёлы (коней) і па мераў зямельных надзелаў. Аднак не ўлічаны цалкам бюджэт сялянскіх гаспадарак па адыходных промыслах, арандаваных землях і інш. Сацы яльны сусвет вёскі значна больш складаная сістэма, з наяўнасцю цэла га клубка гаспадарчых, уладных і нефармальных адносін, якія ўзаемна ўплывалі і вызначалі становішча асобы ў сацыяльнай стратыфікацыі вёскі. Прыродныя ўмовы ў розных раёнах Беларусі адрозніваліся, і ад нолькавая колькасць зямлі не азначала, як правіла, роўнага ўзроўню заможнасці або беднасці яе ўладальнікаў.

Сацыяльныя змены ў вёсцы знаходзілі апазіцыю ў традыцыйных нормах паводзін, светаўспрыманні, этыцы вясковых жыхароў. Архаіч ныя элементы народнай культуры стваралі трывалы бар’ер пераменам, звязаным з пашырэннем рыначных адносін. У шэрагу беларускіх народ ных прымавак і прыказак падкрэслівалася як вялікая годнасць памяр коўнасць, безумоўная перавага беднасці перад поспехам. Стварэнне лішкаў у гаспадарцы не вельмі заахвочвалася, як правіла, не віталіся па зыка, крэдытныя аперацыі. («Лепей галоднаму пераспаць, чым з даўгом прачнуцца», «Пазычай — ліхі абычай» і інш.) [11; с. 485]. Аптымальнай лініяй паводзін сцвярджалася маёмасная самадастатковасць. («У добра га гаспадара ўсё ёсць», «Сяджу на сваім пляцу, нікому не плачу» і інш.) [11; с. 187, 191]. Тыя, хто дасягаў пэўнай заможнасці, выклікалі часта неадабрэнне сярод аднавяскоўцаў. («Багаты абышто хапае, бо свайго ліку не мае», «Багацце раздзімае, а галота нагінае», «Такая карысць з му-



жыка багатага, як з сабакі касматага» і інш.) [11; с. 423]. Ім прыпісвалі ся нярэдка хібы ў асабістых маральных якасцях, сумленні. («Стань свінаватым, то будзеш багатым») [11; с.424]. Успрыняцце ўдачы не было адназначным. З аднаго боку, кожны селянін павінен быў спадзявацца на волю Бога, а з другога — больш разлічваць на ўласныя сілы. («Каму ра бота служыць, той ні аб чым не тужыць») [11; с. 168]. Сяляне з пэўным скептыцызмам, але ў той жа час з зайздрасцю, як носьбіт вышэйшага і нярэдка недасягальнага, успрымалі гарадскую культуру [8; с. 269—270].

Вынікам працэсаў сацыяльнай мабільнасці з’яўляецца маргіналь насць. Яе можна ўспрымаць як стан у працэсе перамяшчэння (змены статуса) групы ці індывіда, а таксама як характарыстыку сацыяльных груп, якія знаходзяцца ў асобым прамежкавым стане ў сацыяльнай структуры. Маргіналы — гэта людзі, якія пакінулі адну сацыяльную стра ту і не адаптаваліся да другой. Маргінальная група знаходзіцца на мяжы культур ці субкультур і мае частковую ідэнтыфікацыю з кожнай з іх. Яна адмаўляе пэўныя каштоўнасці і традыцыі той культуры, у межах якой узнікае, і зацвярджае ўласную сістэму норм і каштоўнасцей. Прычынай узнікнення маргінальных груп з’яўляецца сацыяльная трансфармацыя грамадства, пераход да іншай сістэмы, разбурэнне ўстойлівай сацыяль най структуры. Людзі аказваюцца пазбаўленымі раней існаваўшых са цыяльных каштоўнасцей, норм паводзін, уяўленняў і вымушаны пры стасоўвацца да новых. Вынікам працэсаў маргіналізацыі з’яўляецца ства рэнне слоя сацыяльных паўпераў — сацыяльнага дна. У Беларусі дру гой паловы XIX — пачатку XX ст. да ліку маргіналаў можна аднесці жаб ракоў, прастытутак, крымінальныя элементы і інш.

Магчымасць сацыяльнай мабільнасці ўмацоўвала стабільнасць гра мадства. Актывізацыя і ўскладненне форм сацыяльнага жыцця ў апош нія дзесяцігоддзі XIX — пачатку XX ст. патрабавала пашырэння шляхоў і ўцягнення ў працэсы сацыяльнай мабільнасці ўсіх груп насельніцтва. Цалкам гэтай тэндэнцыі адпавядала паступовае разбурэнне саслоўна карпаратыўнай арганізацыі грамадства. Аднак для Расійскай імперыі асноўны прыярытэт складала захаванне стабільнасці пануючага рэжы му і лаяльнасці падданых у дачыненні да дынастыі. Адным з асноўных прынцыпаў, які дазваляў ўратаваць цэласнасць шматнацыянальнай імперыі, быў саслоўны, які вызначаў сацыяльныя сувязі [3; с. 120]. Гэ тую функцыю саслоўных інстытутаў не магла замяніць цалкам этніч ная ці канфесійная ідэалогія. Прыярытэт дынастычных і саслоўных прынцыпаў над этнічнымі і моўнымі быў агульным для Расійскай імпе рыі і іншых шматнацыянальных дзяржаў. Шляхі вертыкальнай сацы-



яльнай мабільнасці ў прадстаўнікоў розных саслоўяў і груп грамадства Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст. не былі аднолькавымі. Узыхо дзячая сацыяльная мабільнасць мела месца пры атрыманні вышэйшай адукацыі, паступленні на дзяржаўную службу і інш.

ЛІТАРАТУРА

1. Добреньков, В. И. Социология: в 3 т.: Социальная структура и стратификация / В. И. Добреньков, А. И. Кравченко. М. : ИНФРАМ, 2000. 536 с.
2. Иванова, Н. А. Сословноклассовая структура России в конце XIX — начале XX ве ка / Н. А. Иванова, В. П. Желтова. М. : Наука, 2004. 574 с.
3. Каппелер, А. Россия — многонациональная империя / А. Каппелер. М. : «Тради ция» — «ПрогрессТрадиция», 2000. 344 с.
4. Мыльников, А. С. Процесс разложения дворянства и его социальные последствия / А. С. Мыльников, В. А. Якубовский // Социальная структура общества в XIX в.: страны Центр. и ЮгоВост. Европы. М., 1982. С. 311—325.
5. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей— НГАБ). Фонд 654. Воп. 1. Спр. 18. О причислении и исключении мещанхристиан.
6. НГАБ. Фонд 654. Воп. 1. Спр. 20. О причислении и исключении из мещан христиан.
7. НГАБ. Фонд 654. Воп. 2. Спр. 6. О причислении и исключении мещанхристиан.
8. Носевич, В. Л. Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе / В. Л. Носевич. Минск : Тэхналогія, 2004. 350 с.
9. Панютич, В. П. Социальноэкономическое развитие белорусской деревни 1861— 1900 гг. / В. П. Панютич. Минск : Навука і тэхніка, 1990. 375 с.

10. Парсонс, Т. О социальных системах / Т. Парсонс. М. : Академический проект, 2002. 832 с.
11. Прыказкі і прымаўкі: у 2 т. Кн. 1 / рэд. А. С. Фядосік. Мінск : Навука і тэхніка, 1976. 560 с.
12. Токць, С. Беларуская вёска ў эпоху зьменаў: Другая палова XIX — першая траціна XX ст./ С. Токць. Мінск : Тэхналогія, 2007. 308 с.: 8 арк. іл.
13. Улашчык, М. Была такая вёска: гіст.этнаграф. нарыс / М. Улашчык. Мінск : Маст. літ., 1989. 174 с.
14. Шыбека, З. В. Гарады Беларусі (60я гады XIX — пачатак XX ст.) / З. В. Шыбека. Мінск : Эўрофорум, 1997. 292 с.